№ 9(57)
Травень 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"



Фота "ПнВ"

# Апошні акорд "Гарачай вясны-2000"

Пяць гадоў таму — 14 траўня 1995 году — адбыўся ганебны рэферэндум, які стаў падставай А.Лукашэнку дзеля зьмены дзяржаўных сімвалаў Беларусі: бел-чырвона-белага сьцягу і гербу "Пагоня" на пракамуністычныя, крыху зьмененыя бэсэсэраўскія. З гэтага ж часу пачалося і выцясьненьне са школаў беларускай мовы мовай рускай. Апазіцыя правяла ў гэты дзень масавую акцыю ў абарону нацыянальнай сімволікі і беларускай мовы. Некалькі тысячаў чалавек выйшлі на Кастрычніцкую плошчу г. Мінску з бел-чырвона-белымі сьцягамі, з букетамі кветак, якія спалучалі ў сабе нацыянальныя колеры, і ў нацыянальных строях. Людзі сьпявалі песьні, скандавалі "Жыве Беларусь". Супрацоўнікі міліцыі падчас акцыі абмежаваліся назіраньнем і здымкамі на відэакамеру. Пікеты і мітынгі прайшлі ў гэты дзень таксама ў Віцебску, Магілёве, Бабруйску, Барысаве ды іншых гарадах краіны і за яе межамі.



Фота "ПнВ"



Фота "ПнВ"



Фота "ПнВ"

На здымках: Мінск, 14 траўня 2000 году.

## Хроніка

21 красавіка Гомельскі гарадзкі суд разгледзеў касацыйную скаргу на рашэньне Рэчыцкага гарадзкога суда па справе Валянціна Гулая, які адмовіўся ад службы ў войску па рэлігійных перакананьнях. 23 сакавіка 2000 г., нягледзячы на тое, што міжнародныя абавязацельствы і Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь прадугледжваюць правы грамадзянаў на альтэрнатыўную грамадзянскую службу, В.Гулай быў асуджаны да 1 году і 6 месяцаў пазбаўленьня волі ўмоўна з абавязковым прыцягненьнем асуджанага да працы ў месцах, вызначаных органамі, якія кіруюць выкананьнем прысуду. 21 красавіка ў разглядзе касацыйнай скаргі прыняў удзел грамадзкі абаронца ад Беларускага Хельсінкскага Камітэту Алег Гулак. Судовая калегія адмяніла прысуд В.Гулая, яго дзеяньні былі перакваліфікаваныя, абраная мера пакараньня — адзін год пазбаўленьня волі ўмоўна. Адразу пасьля гэтага Валянцін Гулай быў вызвалены з-пад варты.

*26 красавіка* ў Гомелі падчас акцыі "Час смутку", прысьвечанай 14-ай гадавіне аварыі на Чарнобыльскай АЭС, стала вядома, што ўдзень у сваёй кватэры была зьбітая жонка аднаго з лідэраў мясцовай апазіцыі. Па словах жанчыны, у дзьверы пазванілі і назвалі яе па імені, а калі яна адчыніла, то ў кватэру ўварваліся людзі ў цывільным. Яны збілі яе, пагражалі расправай яе мужу і дачцы, калі яны прымуцць удзел у акцыі "Час смутку" і будуць працягваць займацца "апазіцыйнай прапагандай".

*(Працяг на стар.6-7)*

# На няпэўны тэрмін

## Адкладзены прысуд па справе былога прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра

***10-га траўня ў мінскім гарадзкім судзе прагучала апошняе слова падсуднага Міхаіла Чыгіра. Вынясеньне прысуду быламу кіраўніку ўраду адкладзенае на няпэўны тэрмін. Судзьдзя, нічога не паведаміўшы прысутным, проста выйшаў з залы...***


Міхаіл ЧЫГІР (справа) у перапынку між паседжаньнямі.

Працэс па справе Міхаіла Чыгіра мае вялікі рэзананс і таму з самага свайго пачатку зьбірае поўную залу людзей. У дзень апошняга слова экс-прэм'ера па-ранейшаму, на жаль, былі праблемы з праходам у будынак прадстаўнікоў грамадзкасьці і нават некаторых журналістаў. Супрацоўнікі міліцыі, якія стаялі ланцугом на ганку гарсуда, прапускалі людзей выбарачна і скардзіліся тым, каго не прапусьцілі, на адсутнасьць у зале месцаў. Гэта выглядала трохі дзіўна. Вялікую колькасьць жадаючых прысутнічаць на працэсе аднаго з лідэраў беларускай апазіцыі лёгка было прадугледзець загадзя, але паседжаньні так і не былі перанесеныя ў больш прасторную залу (а такая маецца ў гарадзкім судзе, толькі адным паверхам вышэй). Каму спатрэбілася адмыслова ствараць праблемы і назіральнікам працэсу, і міліцэйскай ахове – незразумела.

Апошняе слова апальнага экс-прэм'ера Беларусі прыйшлі паслухаць і прадстаўнікі акрэдытаваных у Беларусі замежных дыпламатычных місіяў, сярод іх – асабіста амбасадары Францыі і Нямеччыны. Увогуле, суд над М.Чыгіром з першага ж паседжаньня выклікаў вялікую цікавасьць за межамі нашай краіны.

Свой апошні выступ Міхаіл Чыгір пачаў з прызнаньня, але то было не прызнаньне віны па інкрымінаваных яму крымінальных артыкулах. "Недаравальнай памылкай", зробленай шэсьць год таму, сп. Чыгір назваў сваю згоду стаць кіраўніком ураду па прапанове Лукашэнкі. "Я паверыў чалавеку, якога асабіста ня ведаў і бачыў упершыню. Ззаду была яго перамога на прэзідэнцкіх выбарах, наперадзе – чысты ліст паперы, на якім належала напісаць гісторыю беларускай дзяржавы пад кіраўніцтвам першага прэзідэнта". М.Чыгір зазначыў, што з самага пачатку ня быў згодны з метадамі кіраваньня эканомікай Аляксандра Лукашэнкі, разумеў, што той прыйшоў да ўлады дзякуючы голаму папулізму, а ягоныя перадвыбарчыя абяцаньні народу – невыканальныя. Тым ня менш Чыгір даў згоду на прэм'ерскі партфель, неўзабаве пакінуўшы пасаду кіраўніка АКБ "Белаграпрамбанк". Прычынай гэтага кроку была ўпэўненасьць у сваіх ведах і сілах, жаданьне прынесьці карысьць сваёй дзяржаве і народу, а таксама спадзяваньне на магчымасьць праводзіць самастойную эканамічную палітыку. Аднак надзеям ня суджана было зьдзейсьніцца. "Свае запэўніваньні ў тым, што ня будзе ўмешвацца ў эканоміку, прэзідэнт парушыў на працягу першых жа месяцаў нашага зь ім супрацоўніцтва", — заявіў былы прэм'ер. Як вядома, у лістападзе 1996 году М.Чыгір пакінуў сваю высокую пасаду з-за нязгоды з праводзімай прэзідэнтам палітыкай.

Падсудны патлумачыў суду, што, не прызнаючы віну, лічыць сваю крымінальную справу палітычнай. У апошнім слове было сказана і аб прычынах кроку Міхаіла Чыгіра ў палітыку. Пасьля адстаўкі, кажа экс-прэм'ер, улада пазбавіла магчымасьці (як яго самога, так і членаў яго сям'і) мець працу ў Беларусі. Некалькі гадоў, езьдзячы штотыдзень працаваць у Маскву, Міхаіл Мікалаевіч знаёміўся з усё новымі і новымі беларусамі, якія былі вымушаныя "зарабляць на жыцьцё за межамі рэспублікі". На думку Чыгіра, гэта найбольш разумныя і прадпрымальныя людзі Беларусі, якія "аказаліся непатрэбныя не свайму народу, а дзяржаве". Асэнсаваньне несправядлівасьці такой дзяржаўнай сістэмы і прывяло яго — чалавека, які заўсёды быў гаспадарнікам, а не публічным палітыкам — да ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах увесну мінулага году. Далей усім вядомыя падзеі: 31 сакавіка, за тры гадзіны да ўручэньня мандатаў кандыдатам у прэзідэнты, М.Чыгіра арыштоўваюць (раней улады ня мелі да яго ніякіх пытаньняў і прэтэнзіяў). Зьвяртае на сябе ўвагу вось што: на працягу чатырох месяцаў, да моманту зьмяненьня экс-кіраўніку ўрада меры стрыманьня (арышт замянілі падпіскай аб нявыезьдзе) здараецца бяда з абодвума даверанымі асобамі Чыгіра як кандыдата ў прэзідэнты. Арнольд Пячэрскі гіне ў аўтакатастрофе 24 красавіка 1999 году, Юрыя Захаранку выкрадае група невядомых 8 траўня...

Аднак вернемся ў гарадзкі суд. Міхаіл Чыгір назваў, хто, на ягоную думку, зьяўляецца "галоўным віноўнікам апісаных у справе падзеяў". Гэта Аляксандр Лукашэнка. Грунтуючыся на прыкладах, узятых непасрэдна з паказаньняў сьведкаў па сваёй справе ў судзе, Міхаіл Чыгір пераканаўча праілюстраваў, што абвінавачаньні кшталту тых, якія высунутыя супраць яго самога, здольныя "паралізаваць волю і здольнасьць прымаць рашэньні ў кіраўніка любога ўзроўню". Таму, працягваў падсудны, разам з прысудам грамадзяніну Чыгіру будзе вынесены прысуд усёй банкаўскай сістэме Беларусі. А магчыма, ня толькі ёй...

Міхаіл Чыгір выказаў упэўненасьць, што яго крымінальная справа рана ці позна будзе перагледжаная, а ён сам – апраўданы. Судзьдзям жа і пракурору Жынгелю падсудны параіў яшчэ раз уважліва прачытаць Крымінальны кодэкс, асабліва артыкул пра вынясеньне пакараньня невінаватаму. Аднак у выпадку справядлівага вердыкту судовай калегіі Чыгір гатовы дараваць уладам ранейшыя незаконныя дзеяньні ў яго адрас. Экс-прэм'ер адназначна заявіў: ён разумее, што справа палітычная, а палітычная барацьба, барацьба за ўладу часам можа і выйсьці за рамкі заканадаўства. "Мне каяцца няма ў чым, я невінаваты, і судзіць мяне няма за што. Я падрыхтаваўся прыняць любы прысуд і ўпэўнены, што вытрымаю любыя выпрабаваньні, якія прынясе мне лёс...".

Прамова М.Чыгіра была сустрэтая дружнымі апладысьментамі. Пракурор слухаў апошнія словы з чырвоным тварам, а судзьдзя сядзеў дужа спахмурнелы, уткнуўшыся ў паперы на стале. На самай справе, ня могуць жа гэтыя людзі, юрысты, не разумець, што адбываецца. Ды – з іхнім удзелам! Так ці інакш, але ні час, ні нават каляндарная дата вынясеньня прысуду Чыгіру пасьля апошняга слова не была нават прыблізна названая. Некаторыя журналісты і ўдзельнікі працэсу выказваюць апасеньні, што так зроблена наўмысна, каб паведаміць час апошняга паседжаньня па гучнай справе літаральна за некалькі вячэрніх ды начных гадзінаў да яго. Тады пра час прысуду не пасьпеюць напісаць ужо зьвярстаныя газеты, не зьбярэцца шмат народу... Аднак сам падсудны бачыць прычыну зацягваньня часу яшчэ і ў іншым. Па словах Міхаіла Мікалаевіча, адцяжка ў часе – гэта працяг празрыстых намёкаў, "падказак" улады на магчымы ад'езд Чыгіра з Беларусі за мяжу. Такія "падказкі" цягнуцца ўжо даўно, ці не з пачатку мінулага году, калі парламент абвясьціў выбары згодна з "дарэферэндумнай" Канстытуцыяй. Апошнім жа часам ціск на Чыгіра і ўсю яго сям'ю ўзмацніўся. Але пакідаць сваю краіну ён не зьбіраецца, хоць ня мае праблемаў з уладкаваньнем побыту і працаўладкаваньнем за мяжой. Для Чыгіра галоўнае – давесьці, што яго маглі арыштаваць па памылцы, але зараз відавочна: ніякіх мільёнаў ён ня краў, як тое падае прапаганда Лукашэнкі. Апраўданьне гэтага палітыка беларуская апазіцыя называе адной з умоваў, без выкананьня якой удзел у любых выбарах проста немагчымы.

**Тацяна СЬНІТКО.**

РБ (за расклейваньне абвестак у непрыстасаваных для гэтага месцах, так званая “антысанітарыя”). У пратаколе ўказвалася, што А.Арцёменка наклеіў улётку РНЕ, што вельмі абурыла хлопца. Ён у сваю чаргу напісаў, што з пратаколам ня згодны, і ў разьдзеле “Тлумачэньні” указаў, што не наклеіў, а сарваў улётку РНЕ. У заяве ПЦ “Вясна” А.Арцёменка адзначыў, што ён “абураны паводзінамі міліцыянта, які робіць такое на плошчы Перамогі за тыдзень да сьвяткаваньня 55-годзьдзя Перамогі”.

*5 траўня* Дзяржаўны камітэт па друку РБ вынес папярэджаньне Гродзенскай незалежнай газеце "Пагоня" за тое, што яна надрукавала аб'яву незарэгістраванага ў аблвыканкаме Маладзёжнага Антыфашысцкага Цэнтру. Гэта ўжо другое сёлета папярэджаньне газеце, што азначае, што яна ў любы момант можа быць зачыненая.

*14 траўня* ў нядзелю на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску Беларуская сацыял дэмакратычная партыя “Народная Грамада” арганізавала масавае гуляньне з кветкамі і атрыбутыкай нацыянальных колераў Беларусі (бел-чырвона-белы). Гуляньне было арганізаванае з нагоды пятай гадавіны рэферэндуму 1995 году, які скасаваў нацыянальны сьцяг і герб ў Беларусі. “Родная мова, сімвалы Бацькаўшчыны — вечныя!” — так было напісана на ўлётках, якія запрашалі на Кастрычніцкую плошчу.

*11 траўня* Ленінскі суд г. Мінску спыніў адміністратыўную справу ў адносінах да намесьніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі, якая была ўзбуджаная па арт. 167.1 ч.2 КаАП РБ за ўдзел у акцыі 21 ліпеня 1999 году. На судзе, які адбыўся 21 верасьня мінулага году Ю.Хадыка быў аштрафаваны на 150 мільёнаў рублёў... Ю.Хадыка абскардзіў гэтае рашэньне ў Мінскім гарадзкім судзе, які адмяніў пастанову суда і накіраваў справу на перагляд іншаму судзьдзі. 11 траўня г.г. судзьдзя Алена Цярашкова спыніла справу з-за адсутнасьці складу адміністратыўнага правапарушэньня ў дзеяньнях Ю. Хадыкі.

*У ноч з 13 на 14 траўня* Малады Фронт правёў у гарадах Беларусі акцыю "Горад наш!", прымеркаваную да ўгодкаў рэферэндуму, паводле якога была зьмененая беларуская гістарычная сімволіка на пракамуністычную. У Мінску з раніцы 14 траўня бел-чырвона-белыя сьцягі луналі на прасьпекце Скарыны і на вышынных будынках большасьці мікраraёнаў гораду. Бел-чырвона-белыя сьцягі былі ўзьнятыя ноччу такса ма ў Магілёве, Віцебску, Брэсьце, Барысаве, Заслаўі і іншых гарадах краіны.

*15 траўня* ў г. Гродна планавалі абвясьціць бестэрміновую галадоўку шматдзетныя маці, якія зьяўляюцца сябрамі арганізацыі “Крыніца міласэрнасьці”. Прычынаю абвяшчэньня галадоўкі стала тое, што ўжо чатыры месяцы арганізацыі не даюць абяцанага памяшканьня на вул. Леніна ў цэнтры гораду. Аднак правядзеньне галадоўкі не спатрэбілася. 12 траўня гарвыканкам выдзеліў памяшканьне гэтай арганізацыі ў адным з прэстыжных раёнаў гораду.

*15 траўня* за публікацыю ў красавіку артыкула старшыні Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямёна Шарэцкага "Зараза фашызму. А.Лукашэнка капіруе Гітлера" атрымала папярэджаньне ад Генеральнай пракуратуры РБ рэдакцыя газеты "Наша Ніва". Афіцыйная фармулёўка папярэджаньня — за парушэньне арт.5 Закону аб друку: "недапушчэньне злоўжываньня свабодай масавай інфармацыі". Гэта ўжо другое сёлета папярэджаньне газеце. Першае яна атрымала за публікацыю ліста чытачкі Т.Судзілоўскай "Зайздрошчу Чачэніі". Тады Дзяржкамдрук палічыў некаторыя высновы ліста "распальваньнем нацыянальнай варожасьці". Над незалежнай газетай "Наша Ніва" навісла пагроза быць зачыненай.

*У траўні* ў трэці раз Міністэрства юстыцыі РБ адмовіла ў рэгістрацыі рэспубліканскай грамадзкай арганізацыі "Беларускае аб'яднаньне маладых палітыкаў". Мінюст устанавіў парушэньні ў матэрыялах аб рэгістрацыі артыкулаў 5, 8 і 10 Закону РБ "Аб грамадзкіх арганізацыях", у прыватнасьці гаворыцца, што маладыя палітыкі парушаюць закон тым, што дапускаюць у свае шэрагі непаўнагадовых, якіх потым яшчэ і абіраюць у выбарныя органы... БАМП прапанавана абскардзіць рашэньне Мінюсту ў Вярхоўным судзе РБ.

*У траўні* ў Беларусі створаны Антыфашысцкі камітэт. Узначалілі яго тры сустаршыні: паэт А.Вольскі, кінарэжысёр Ю.Хашчавацкі, дэпутат ВС 13-га скліканьня Л.Гразнова. Рашэньне аб стварэньні камітэту было прынятае Вярхоўнай Радай дэмакратычных сілаў у сувязі з актывізацыяй дзейнасьці ў краіне прафашысцкіх арганізацыяў кшталту Рускага нацыянальнага адзінства (РНЕ).







*З 5 па 12 траўня ў Мінску прайшоў тыдзень акцыяў "Скажы НЕ гвалту", які арганізаваў і правёў беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля". У межах тыдня адбыліся шматлікія конкурсы і канцэрты і ў каторы раз прагучалі жахлівыя лічбы: у Беларусі больш за 40 адсоткаў дзяцей да трох гадоў маюць нярвова-псіхічныя растройствы, больш за 26 тысячаў дзяцей жывуць у дзіцячых дамах і інтэрнатах...*

*На здымках: дзіцячы плакат, прысьвечаны акцыі; Аліса Крупская, адна з пераможцаў конкурсаў тыдня.*

# Лідэры працоўных ...без працы

Пакуль Міністэрства юстыцыі вынаходзіць прычыны дзеля адмаўленьня ў рэгістрацыі Рабочага Саюзу "Единство", кіраўнікі прадпрыемстваў паказваюць цуды слоўнай эквілібрыстыкі, каб не прыняць на працу актывістаў рабочага руху. Улады напалоханыя перспектываю дзейнасьці новай арганізацыі. Кіраўніком Саюза абраны Сяргей Антончык — дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, які рабіў даклад у парламенце аб карупцыі ў камандзе прэзідэнта А.Лукашэнкі. Сябрам праўленьня Саюзу “Адзінства” абраны Георгій Мухін, які быў намесьнікам старшыні Свабоднага прафсаюзу Беларусі ў 1992-м годзе, а ў 1999 годзе распачаў на самым буйным заводзе Беларусі — Мінскім трактарным — страйк. За гэта яго звольнілі з заводу. І ўладкавацца на працу Г.Мухін ня можа па сёньня нават з дапамогай Дзяржаўнай службы занятасьці.

Да прыкладу, 14 красавіка гэтага году дзяржаўная служба занятасьці дала Мухіну накіраваньне на мінскі завод колавых цягачоў: “у адпаведнасьці з заяўленай вакансіяй наладчыкам станкоў і маніпулятараў з праграмным кіраваньнем”. 18 красавіка загадчык аддзела кадраў заводу адмовіў Г.Мухіну ў працаўладкаваньні па прычыне “адсутнасьці вакансіяў”. Такі ж самы адказ Г.Мухіну даў загадчык аддзела кадраў “Мотавелазаводу” . А самы анекдатычны адказ Г.Мухін атрымаў ад загадчыка аддзелу кадраў Мінскага трактарнага заводу. Яму адмовілі па прычыне “нязгоды працоўнага калектыву”. Тут трэба патлумачыць, што на Мінскім трактарным заводзе працуе некалькі дзясяткаў тысячаў чалавек і каб вырашыць гэткім чынам пытаньне аб працаўладкаваньні Г.Мухіна трэба было б сабраць сход працоўнага калектыву... Відавочна, што ўлады напярэдадні выбараў у парламент і прэзідэнцкіх выбараў напалоханыя ўзмацненьнем актыўнасьці лідэраў рабочага руху і імкнуцца ізаляваць іх ад працоўных калектываў і грамадзка-палітычнага жыцьця.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ “Вясна”.**

# Рай для зьняволеных?

Натуральна, фатаграфаваць зьняволеных нам было забаронена, бо гэта ва ўсім сьвеце лічыцца парушэньнем правоў чалавека. Сфатаграфаваць ахову можна было з дазволу саміх гэтых прыгожых хлопцаў (часам – і дзяўчат) у цёмна-сіняй форме. Але персанал паўсюль быў заняты справамі, не хацелася турбаваць людзей. А вось калі мае мінскія знаёмыя глядзелі на кадры з камерамі СІЗА, здаралася адно і тое ж. Усе як адзін казалі: "А гэта, відаць, пакой, у якім ты жыла ў Швецыі ў гатэлі". Заўвага цалкам натуральная. Пералічу, якія прадметы ўжытку ёсьць у камеры шведзкага СІЗА. Па-першае, гэта нармальны ложак – з матрасам, падушкаю і лёгкай (у памяшканьнях цёпла) коўдрай. Па-другое, ужо названы раней малы тэлевізар над самым ложкам. Удакладню толькі, што гэтая карысная "скрынка" – уласнасьць турмы, у адрозьненьне ад турмаў для адбыцьця пакараньня асуджанымі. Там звычайна тэлевізар стаіць у холе, а ў камеры дазваляецца мець перададзены з волі.

Далей. На сьцяне над ложкам прыладжаны невялікі сьвяцільнік-бра, вокны ўяўляюць сабой шклопакет з занавескамі-жалюзі. Але самае нязвыклае – гэта ўмывальнік. Не кранік на ўнітазе (прыгадайце расповяды былых зьняволеных на Беларусі ці рэпартажы з турмы Валерыя Шчукіна), а звычайная белая ракавіна з кранам. Прыбіральні ж тут месьцяцца ў асобных памяшканьнях.

Калі мае мінскія сябры глядзяць на здымак турэмнай сталовай, усе думаюць, што гэта – добрая кавярня альбо сярэдняй рукі бар. Бо ў сталоўцы фіранкі на вокнах, кветкі на сталах і сьценах і сьвяцільнікі-плафоны таго ж колеру, што і кветкі... Бачылі мы і кухні, дзе звычайна працуюць самі зьняволеныя (каму дазваляюць не сядзець пад замком удзень). Час быў паміж абедам і вячэраю, і кухні зьзялі чысьцінёй. А яшчэ яны пахлі чыпсамі, булкамі і сьвежым хлебам, якія былі раскладзеныя ў сьпецыяльных ёмістасьцях у століках на колах. Зразумела, чаму зьняволеных жанчын мы пабачылі ў добрым настроі. Некалькі зь іх сядзелі ў пакоі для правядзеньня вольнага часу. Адна жанчына раскладвала карты (як мне падалося, для варажбы), астатнія, абкружыўшы яе, балбаталі нешта пашведзку і пасьмейваліся.

Я запытала ў Матса Ландэбрынка, ці не бывала ў турме выпадкаў закаханасьці паміж зьняволенымі мужчынамі і жанчынамі. "Не, яны знаходзяцца ў асобных карпусах і паміж сабой ніколі не сустракаюцца", — адказаў ён. Праўда, наш праваднік згадаў пра даўні выпадак, калі дзяўчына закахалася ва ўласнага ахоўніка, але нічога сур'ёзнага не было, тым больш, што дзяўчына неўзабаве выйшла з ізалятару ці то ў іншую турму, ці то на волю.


Турэмны дах.


Выцьвярэзьнік.


Сьледчы ізалятар.

Сьледчая частка займае ў турме Кронабэргсхектэт чатыры паверхі. Але ёсьць тут яшчэ выцьвярэзьнік. Раней гэтая ўстанова знаходзілася ў сферы абавязкаў паліцыі. Але ў жніўні 1999 году, пасьля прыняцьця новага закону аб даглядзе п'яных грамадзянаў, выцьвярэзьнік перанесьлі. Цяпер паліцыянты абавязаныя везьці знойдзеных па горадзе нецьвярозых людзей у сьпецаддзел ізалятару. "Лепей, каб паліцэйскія знаходзіліся на вуліцы і выконвалі свае абавязкі там", — лічыць намесьнік начальніка турмы. Дадам, што нешматлікасьць паліцыі на вуліцах нам, беларусам, адразу моцна кінулася ў вочы. Спадар Ландэбрынк кажа, што супрацоўнікі яго ўстановы спраўляюцца з дагля-дам алкаголікаў лепш за паліцыю.

Здымак камеры шведзкага выцьвярэзьніку таксама выклікаў у маіх знаёмых асацыяцыю з нумарам гатэлю, хоць там няма ні тэлевізіі, ні ракавіны, ні лямпы-бра на сьцяне, ні ўмывальніку. Там ёсьць проста кран з пітной вадой, як раней у аўтаматах з газіроўкай, і на ўсялякі выпадак – дзіркі ў падлозе для стоку вады. Звычайна падабраныя паліцыяй п'яныя проста сьпяць ноч тут пад наглядам аховы і медыкаў (тыя зазіраюць у пакой праз кожныя 15 хвілінаў). На працу кліенту пра яго візіт у выцьвярэзьнік не паведамляюць. І ўвогуле: прыём п'яных можа весьціся нават ананімна. Але ёсьць выключэньні: выпадкі з нецьвярозымі непаўналетнімі, пра якія інфармуюць іх бацькоў, а таксама калі нецьвярозага злавілі за рулём – да гэткай зьявы ў Швецыі ставяцца даволі строга. Тады пра п'янства паведамляюць у сацыяльныя ведамствы, і гора-кіроўца мае выбар: месяц турмы альбо год антыалкагольных курсаў. Цікава, што большасьць выбірае курсы, нягледзячы на строгі кантроль за цьвярозым ладам жыцьця "вучняў".

"Мы ня хочам, каб людзі, якія выпілі зашмат, спалі проста на вуліцы, бо іх там часам рабуюць ці нават забіваюць, — тлумачыць Матс Ландэбрынк. – Але мы і не рэгіструем іх як злачынцаў. Гэта не злачынства – быць п'яным". Трэба сказаць, што падчас нашага перабываньня ў Швецыі, пасьля наведваньня турмы, шведзкія газеты пісалі пра выпадак забойства моцна п'янага чалавека паліцыянтамі. Гэта было пяць гадоў таму. Усе гэтыя гады маці забітага спрабуе дабіцца пакараньня вінаватых... Праблемы з некаторымі "мянтамі" – справа, падобна, інтэрнацыянальная.

**Тацяна СЬНІТКО.**

---

*(Заканчэньне.*
*Пачатак у № 7-8)*

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"